16+

ISSN 0132-5957

# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

3• 2019
сакавік



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.







Алег ГУЦОЛ.



Мікола ГІРГЕЛЬ.



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ
і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Анастасія СКАРКО і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Алег КАРПОВІЧ.

## Першакрасавіцкія

# Думкі ўголас

Ператворым дзень гумару ў год смеху!

Чым часцей чалавек памірае ад смеху, тым даўжэй ён жыве.

Не адкладвай на заўтра, калі можаш пажартаваць сёння.

Лепшы выхад са смешнага становішча – смех.

Добра смяяцца да слёз і не горш – плакаць ад смеху.

Вясёлых анекдотаў да смешнага мала.

Здаровы смех патрэбны і хворым людзям.

Ператворым лёгкі гумар у тоны здаровага смеху!

**Даслаў Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*




Алег ПАПОЎ.

## *Шаноўныя чытачы!*

Рэдакцыя часопіса «Вожык» знаходзіцца цяпер па новым адрасе:
220034, г. Мінск, вул. Захарава, д. 19.
Тэлефон: 244-92-37.
Пішыце, тэлефануйце, заходзьце!
Чакаем новых твораў!

*Свой астатні грошык*
*Не шкадуй на «Вожык»,*
*Бо настрой харошы*
*Даражэй за грошы!*



# Худзізна і яе цана

*Байка*



Здараецца ж такое ў нашым свеце:
Уздумала Свіння быць на дыеце.
Не есці бульбы, збожжа не ўжываць
І кожны дзень ўсё больш гуляць.
– Я ем траву, вы толькі паглядзіце!
Намераў па аздараўленні не ўлажыце.
Зраблюся стройнай, нібы кіпарыс,
Сваёй фігуры я змяню абрыс.

***

Хаўронні многія ў наш час зусім забылі:
За худзізну свіней ніколі не цанілі.

**Антон ЛАБАНОЎСКІ,**
*г. Магілёў.*



Алег КАРПОВІЧ.




## Сямёра не чакаюць аднаго

Па плане аперацыя. У зборы
Медсёстры, асістэнтка маладая.
Спакойна пад наркозам
дрэмле хворы...
А дзе ж хірург? Гадзіну ўжо
чакаюць.
— Ну, што рабіць? —
нясмелая пытае. —
І дзе дагэтуль носіць чорт яго?
Смялейшая:
— Дай скальпель! Пачынаем:
Сямёра не чакаюць аднаго.

## Маладая жонка

Вячэру мужу згатавала,
Але сама не каштавала.
Не ў тым прычына, што баіцца...
Навошта абаім труціцца?

## Дазнанне пасля палявання

— Скажыце, а калі вы зразумелі,
Што трапілі ў калегу — не ў лася?
— Калі той «лось» мяне ў адказ
падстрэліў!
На гэтым і гісторыя уся...

## Без аперацый

«Пра апетытныя аб'ёмы
Ты марыш, седзячы ўсё дома?
Усім, хто скальпеля баіцца,
Эфекту памагу дабіцца».
Аб'яву гэткую ў газеце
Надрукаваў пчаляр наш Пеця.

**Мікола КАМАРОЎСКІ,**
*г. Орша.*






У аўтобусе.
— Дзяўчына, вы выходзіце?
— Ох, не бярэ ніхто!

☺ ☺ ☺

Кажуць, што ўжо ў першабытны час у жанчын была поўная пячора шкур, але насіць не было чаго.

☺ ☺ ☺

Усе мужчыны шукаюць разумную, прыгожую, стыльную, дагледжаную, сексуальную, маладую, з уласным аўтамабілем і кватэрай, з футрамі і брыльянтамі і — верную і бескарыслівую... Узнікае адно пытанне: «А вы ёй навошта?»

☺ ☺ ☺

Ідэальны мужчына, ідэальны мужчына... Ды каму ён патрэбны? Кожная жанчына кахае свайго ёлупня!




## Сямейныя справы

*Гродзенская вобласць.* «Усё ў дом, усё ў сям'ю!» — менавіта пад такім дэвізам працавалі тры бізнесмены: муж, жонка і сын. Муж кіраваў прадпрыемствам — афіцыйным дылерам ААТ «Мінскі трактарны завод», якое супрацоўнічала з фірмай-пасрэднікам. Дырэктарам фірмы была жонка, а заснавальнікам — сын.

Таму хоць па дагавору з МТЗ можна было купляць запчасткі напрамую ў вытворцы, некаторыя з іх прадпрыемства набывала ў падкантрольнай яму фірмы. У выніку такога «бізнесу» запчасткі даражэлі на 30, а ў асобных выпадках — нават на 300 працэнтаў.

Калі адказныя асобы нарэшце спынілі сямейны бізнес, бюджэт паспеў страціць больш за 85 тысяч рублёў. Крымінальная справа таксама атрымалася сямейнай...



## Будынак-прывід

*Гомель.* Тыя, хто вераць у зданей, не перастаюць шукаць іх у пакінутых будынках. А вось кантралёрам пашанцавала больш: яны знайшлі цэлы адміністрацыйны будынак-прывід па вуліцы Барыкіна.



Алег КАРПОВІЧ.



## Па замкнутым ланцужку

Калі вам дрэнна – вы ідзяце да ўрача. Калі дрэнна ўрачу – ён ідзе да траўніцы. Калі дрэнна траўніцы – яна ідзе да варажбіткі. Калі дрэнна варажбітцы – яна ідзе да ўрача.

Дзед Міхед тузануў за хвост ката, які злізаў з малака ў гаршку ўсе вяршкі. Бабуля Тэкля адлупцавала дзеркачом па спіне дзеда Міхеда, бо той выжлукціў з бутлі самагонку. Участковы інспектар аштрафаваў бабулю Тэклю за тое, што яна незаконна гоніць алкагольныя напоі.

Настаўніца паставіла Воўку дрэнную адзнаку за хатняе заданне па матэматыцы. Дома Воўка прысароміў бацьку, што ён не ведае матэматыкі. Бацька прызнаўся, што рашаў задачы разам з маці. Маці заявіла, што вінавата не яна, а настаўніца, якая не навучыла яе матэматыцы.

**Хадзіў Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*



ААТ «Будаўніча-мантажны трэст № 27» спісала чатырохпавярховую пабудову, выключыла з бухгалтарскіх дакументаў і не плаціла за яе падатак за нерухомасць. Таму больш за 10 гадоў збудаванне ў добрым стане ніяк не выкарыстоўвалася.

Цяпер будынак-прывід, відаць, перастане быць ценем: рыхтуюцца дакументы для яго продажу з публічных таргоў.



## Шавец, жнец, ігрэц і… хітрэц

*Жлобін.* Былы дырэктар, а затым метадыст раённай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы настойліва раіў пераемніку ўзяць на працу свайго сябра. (Гаворка адбывалася ў 2013 годзе.) Новы кіраўнік ніяк не верыў:

– А ён сапраўды здолее адначасова працаваць і вартаўніком, і дворнікам, і рабочым, і кладаўшчыком?

– Без праблем! Ён у мяне дагэтуль тры гады працаваў па сумяшчальніцтве інструктарам-метадыстам і рабочым. Ніхто не скардзіўся! – запэўніў яго калега.




– Добра, няхай аддзел кадраў рыхтуе дакументы. Потым пазнаёмлюся з такім унікальным спецыялістам.

Знаёміцца не было з кім: спецыяліст аказаўся не толькі ўнікальным,

Працяг на с. 4–5.




Сяброўскі шарж
Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**З 85-годдзем** – *вядомага беларускага пісьменніка Анатоля Андрэевіча ДЗЯЛЕНДЗІКА.*

*Творчаму амплуа Анатоля Дзялендзіка можна па-добраму пазайздросціць: драматург, сцэнарыст, гумарыст-празаік. І на кожнай з гэтых ніў мастак слова мае важкія набыткі. Сатырычны падыход да асэнсавання рэчаіснасці пісьменнік выявіў ужо ў першай сваёй кнізе – зборніку гумарэсак «Пагібель «Тытаніка» (1963). Бясспрэчны талент знайшоў увасабленне ў шматлікіх камедыях, якія мелі паспяховае сцэнічнае жыццё: «Амазонкі», «Аперацыя «Мнагажэнец», «Гіпапатам» і інш. Напісаў шэраг аднаактовых п'ес («Абы ціха», «Дзяўчына з камвольнага» і інш.). Вядомы Анатоль Андрэевіч і як аўтар сцэнарыяў тэлефільмаў.*

*Зычым творцы доўгіх гадоў жыцця і невычэрпнага натхнення!*




Аляксандр ПЯТРОЎ.



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

але і фіктыўным. Затое зарплаты былі сапраўднымі. За час такой працы (з 2010 па 2016 год) з бюджэту выдаткавалі больш чым 13 тысяч рублёў. Грошы прыгарнуў дырэктар-хітрэц.

Пасля суда экс-кіраўнік адхапіў належнае пакаранне: тэрмін, канфіскацыю маёмасці, забарону займаць кіруючыя пасады...

## Вінавата сонца

*Барысаў.* Мясцовы прадпрымальнік, уладальнік фітнэс-клуба, знайшоў летась месца пад сонцам: адкрыў салярый. І пачаў шчодра дзяліцца сонечнымі промнямі з усімі жадаючымі. За грошы, зразумела. Не забыўся камерсант і пра рэкламу сваіх паслуг. А вось пра тое, што трэба атрымаць ліцэнзію, відаць, у гарачцы запамятаваў.




Напамінак пра законную прадпрымальніцкую дзейнасць будзе дорага каштаваць прыхільніку сонечных працэдур: у адносінах яго ўзбуджана крымінальная справа. А барысаўчанам давядзецца загараць у іншым месцы...

## Квадракоптары замест поні

*Гродна.* «Два дзясяткі поні скрозь туман і змрок...» – так апісваў цяжкасці працы кантрабандыстаў англійскі пісьменнік Рэдзьярд Кіплінг у адным са сваіх вершаў. Зараз,




*У сярэдзіне 1970-х «Вожык» апублікаваў творы школьнікаў – пераможцаў конкурсу «Шукаем усмешку», што праводзіла газета «Піянер Беларусі». Гэта быў вожыкаўскі дэбют і для Уладзіміра МАЗГО. З той пары яго вершы, эпіграмы, тэксты песень нязменна з'яўляюцца на старонках часопіса. Паэт – аўтар двух дзясяткаў кніг для дарослых і дзяцей, лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, літаратурных прэмій імя Васіля Віткі, «Залатога Купідона».*

*Пасябраваць з гумарам пісьменніку, здаецца, было наканавана лёсам: ён нарадзіўся 5 сакавіка, у адзін дзень з патрыярхам беларускай сатырычнай літаратуры Кандратам Крапівой. Годна працягваючы справу слыннага папярэдніка, Уладзімір Мінавіч трывала ўпісаў сваё імя ў лік лепшых мастакоў вясёлага слова. Ад усёй душы віншуем творцу* **з 60-годдзем** *і жадаем новых цікавых здабыткаў на літаратурнай ніве!*

*P. S. Новыя загадкі для маленькіх чытачоў ад Уладзіміра Мазго чытайце ў сённяшнім «Калючыку».*

*Сяброўскі шарж*
*Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.*




Анастасія СКАРКО і Міхась СТЭФАНЕНКА.




Алег ПАПОЎ.

у XXI стагоддзі, гэты твор, напэўна, гучаў бы па-іншаму. Аўтар папросту памяняў поні на квадракоптары, накшталт тых, што вырабляў і прадаваў мясцовы кулібін-камерсант.

Прадавец падышоў да справы сур'ёзна: распавядаў у інтэрнэце пра характарыстыкі тэхнікі, агучваў прэйскурант, а таксама публікаваў відэаінструкцыі пра яе магчымасці па перамяшчэнні грузаў. Беспілотнікі часта куплялі беларусы, каб адправіць у незаконны палёт у прыгранічныя краіны Еўрасаюза... цыгарэты.

Але ў пачатку гэтага года палёт квадракоптараў быў спынены: траекторыямі іх палётаў і змесцівам зацікавіліся супрацоўнікі фінансавай міліцыі.



*Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.*




Размаўляюць дзве сяброўкі.

– Скажы шчыра, калі я ў грамадскім транспарце найперш гляджу на правую руку мужчыны, гэта ўжо ўзрост?

– Не, узрост – гэта калі глядзіш, ці ёсць вольнае месца, каб сесці!..



# Ананімнае ліха

*Фельетон*

Косця Ніцеў ніяк не мог дачакацца, калі скончацца ўрокі. Учора невядомы даслаў яму ў сацыяльнай сетцы паведамленне: «Шукаем супрацоўнікаў. Усе пытанні ў Telegram @...». Было позна, амаль поўнач, і школьнік вырашыў, што адкажа заўтра. Таму яму карцела хутчэй апынуцца дома і больш даведацца пра загадкавую працу.

Адсылка да Telegram Косцю не здзівіла. Падлетак і яго сябры даўно карысталіся гэтым дадаткам і, шчыра кажучы, адчувалі сябе крыху разумнейшымі за іншых, бо чулі, што Telegram пільна абараняе ананімнасць людзей. Яны ведалі, у дадатку можна пісаць што захочаш і ніхто ніколі не знойдзе аўтара.

Заўважыўшы ўчора сімвалы пасля знака «@», Косця адразу зразумеў, што перапісвацца ён будзе не з чалавекам, а з ботам*. Так было нават лепш: адказы на ўсе пытанні атрымліваеш імгненна.

Дома хлопец, нават не паеўшы і не пераапрануўшыся, хуценька сеў за камп'ютар. Пальцы імкліва забегалі па клавіятуры.

Вось іх перапіска:

**Косця.** Ці ёсць яшчэ праца?

**Бот.** Так, але спачатку адкажы: колькі табе гадоў і адкуль ты?

**Косця.** 17 гадоў, я з Віцебска.

**Бот.** Магу прапанаваць папрацаваць графіцістам у тваім горадзе.

**Косця.** Графіці? Але ў мяне няма вопыту...

Падлетак разгубіўся. Відаць, гэтая праца не для яго.

**Бот.** Гэта не мае значэння. Табе трэба будзе наносіць каляровымі фарбамі з дапамогай трафарэтаў рэкламу інтэрнэт-крамы на сцены дамоў пасля дзесяці гадзін вечара.

**Косця.** А чаму так позна? Што за крама?

**Бот.** Размяшчэнне такіх графіці незаконнае: могуць прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці. Крама гандлюе наркотыкамі.

Школьнік не на жарты перапужаўся.

**Косця.** Наркотыкамі? А калі мяне знойдуць?

**Бот.** Вось каб не знайшлі, я і прапаную працаваць увечары. Аплата – адзін рубель за кожны малюнак. Ад цябе – справаздача: фотаздымак на фоне сваёй працы.

**Косця.** Я спытаю ў бацькоў.

**Бот.** Гэта неабавязкова.

**Косця.** Я раней не працаваў, таму лепш з імі параюся.

**Бот.** Ты што, усё жыццё будзеш да іх бегаць па парады? Час нарэшце адпусціць маміну спадніцу...

Косця пакрыўдзіўся: нават бяздушны бот лічыў яго мамчыным сынком, але ж ён ужо школу заканчвае! Падлетак не паспеў адказаць: у пакой зайшоў бацька і паклікаў вячэраць.

– Сёння з цёткай Нінай па тэлефоне размаўляла, – маці за сталом дзялілася навінамі. – Жах, што ў Мінску робіцца! Каля адной станцыі метро цэлы раён распісалі рэкламаю наркотыкаў. Слупы ды прыпынкі потым, зразумела, зафарбавалі. Але ж колькі людзей убачыла тыя аб'явы! Нехта, відаць, і адгукнуўся...

– А ў нас у горадзе што адбываецца! – далучыўся да размовы бацька. – Мне вунь брат Васіль, міліцыянер, расказваў. Неяк два падлеткі наркарэкламай не адзін дом распісалі. Знайшлі іх. І штрафы атрымалі, і нічога не зарабілі, вядома.

– Чаму не зарабілі? – здзівіўся Косця.

– Ашукалі іх. Сам падумай, навошта заказчыкам такой рэкламы плаціць падлеткам? Яны ж скардзіцца ў міліцыю не пойдуць. Для гэтага патрэбна прызнацца, чым займаешся. Ды і заказчыкі нічым не рызыкуюць. Зловяць аднаго дурня, які малюе. І што далей? Ён з наймальнікам праз твой улюбёны Telegram звязваецца. Спытаюць міліцыянеры ў адміністрацыі дадатку, хто прапаноўваў працу, а яна на запыт не адкажа. У падлетка – бяда, а ананімны злачынец працягвае дзейнічаць, шукае новых ахвяр...

– А можа, і лепш, што не расплаціліся з імі, – задумліва сказала маці. – Учора вунь калега расказала пра выпадак у нашым горадзе. Міліцыянеры затрымалі двух мужчын, якія малявалі рэкламу крымінальнай інтэрнэт-крамы ўсюды, нават на сметніцах. За працу з імі разлічваліся наркотыкамі. Частку яны ўжывалі, а частку – прадавалі.

– Дарэчы, мне Васіль яшчэ адну гісторыю расказваў, – узгадаў бацька. – Аднойчы такая рэклама на доме дапамагла нашым міліцыянерам знайсці і затрымаць мужчыну, які перавозіў наркотыкі. Уявіце, яе кошт – каля 8 тысяч долараў!

– Ён што, збіраўся гандляваць імі па ўсёй Беларусі? – Косця размаўляў і адначасова думаў, што яму адказаць боту ў Telegram.

– Не, планаваў пакінуць «закладкі» толькі ў Віцебску.

– Ой-ёй, – маці ажно ўспляснула рукамі. – Божа, колькі людзей магло пацярпець!

– Але гэта яшчэ не канец гісторыі. Гэтая рэклама дапамагла знайсці яшчэ двух кур'ераў. Міліцыянеры затрымалі іх якраз тады, калі яны вымалі атруту са схованкі.

Крыху памаўчалі. Маці асцярожна спытала ў сына:

– Косцік, ты ж нічым такім займацца не будзеш? Разумееш, як гэта небяспечна? Колькі гора прыносіць людзям?



Хлопец, як ні намагаўся, але пачырванеў.

— Хіба наш сын такі? Ты што, маці! — знарочыста абурыўся бацька. — Хіба мы яго такому вучылі? — і звярнуўся да Косці. — Ты, калі захочаш падзарабіць, спачатку з намі параіся. Мы ж крыху даўжэй на свеце жывём, больш ведаем. Добра?

— Добра, — пагадзіўся той.

— Ой, сынок, я як тэлевізар не ўключу, абавязкова пачую нейкую гісторыю пра маладых людзей, што звязаліся з наркотыкамі. Адзін вось з Брэста, вучыўся ў ліцэі, ды зрабіў наркалабараторыю... А як на вечарынку ў Мінску маладыя людзі прынеслі з сабой наркотыкі, чуў? Ведаеш, як сумна ўсё скончылася?

— Ой, хопіць ужо пра сумнае! Наш сын усё ведае. Глупствам займацца не будзе, — заступіўся за хлопца бацька. — Праўда, сын?

Косця згодна кіўнуў галавой. Ён ужо ведаў, што будзе рабіць пасля вячэры.

Хлопец зачыніўся ў сваім пакоі, заблакіраваў субяседніка і паскардзіўся на яго адміністрацыі дадатку. Потым тое ж самае зрабіў з невядомым у сацыяльнай сетцы, які прапанаваў яму працу.

Але праз некалькі дзён школьніку напісаў новы невядомы. Тэкст паведамлення быў такі ж, як і ў першы раз, але імя бота памянялася...

На жаль, наркатычная атрута распаўсюджваецца па нашай краіне. За мінулы год канфіскавана 740 кілаграмаў наркатычных сродкаў і 35 кілаграмаў псіхаактыўных рэчываў, выяўлена больш за 4,9 тысячы злачынстваў, звязаных з наркотыкамі, заблакіравана 17 інтэрнэт-крам, якія гандлявалі наркотыкамі. Беларусь прываблівае і замежных злачынцаў: у мінулым годзе была спынена дзейнасць 29 каналаў пастаўкі наркотыкаў з-за мяжы, а таксама іх транзітных перавозак.

Аднак пакуль блакіруюць адны сайты, на іх месца прыходзяць іншыя. Даверлівыя падлеткі лёгка трапляюць у пастку злачынцаў, якія абяцаюць немалыя грошы і незалежнасць ад блізкіх. Што застаецца бацькам? Больш гаварыць і тлумачыць; цікавіцца праграмамі, якімі карыстаюцца дзеці, і насцярожыцца, калі тыя гарантуюць поўную незаўважнасць у інтэрнэце; паводзіць сябе так, каб яны не баяліся раіцца з бацькамі і адчувалі іх падтрымку. А ўвогуле, як кажуць, не рабі ліхога і не бойся нічога...

**Алена КЕДА.**

**Бот — спецыяльная праграма, якая аўтаматычна і (ці) па зададзеным раскладзе выконвае пэўныя дзеянні праз інтэрфэйсы, прызначаныя для людзей.*






Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ
і Міхась СТЭФАНЕНКА.

## АНЕКДОТЫ

Усе жанчыны дзеляцца на два тыпы: якія жывуць з мужчынамі і якія жывуць з уласным меркаваннем...

☺ ☺ ☺

Шлюбаразводны працэс. Суддзя пытаецца:

— Ну, было ў вашым мужы нешта прыцягальнае, калі вы ўсё ж выйшлі за яго замуж?

— Было, але я ўсё патраціла!

☺ ☺ ☺

Разумную жанчыну мужчына амаль не адчувае на сваёй шыі.

☺ ☺ ☺

У кожным мужчыне, несумненна, ёсць жалезны стрыжань, і слабым жанчынам яго не сагнуць. Застаецца адно — пілаваць...




## Анатоль ЗЭКАЎ

### SMS-раман

*На тэлефон прыйшло натхненне*
*Адной з мільёна смс.*
Ганна НОВІК

Наўрад ці стала б паэтэсай
І напісала гэты верш,
Калі б не тыя эсэмэскі,
Што ты мільёнамі мне шлеш.

Іх я чакаю з нецярпеннем,
Каб не спыняць вершапрацэс,
Бо чэрпаю заўжды натхненне
З тваіх штодзённых SMS.

Ты шлі іх, шлі пабольш, каханы,
І не крыўдуй між тым, прашу:
Не выйшла ў нас з табой рамана –
Дык свой, у вершах, напішу!

## Пётр СЯМІНСКІ

### Каб не трапіў…

*І я, дарослая персона,*
*Дзяўчат цалую і куру...*
***
*Усё, як ёсць, усё б табе аддаў,*
*Каб парушынкай мой радок балючы*
*У вочы людзям век не пападаў.*
Віктар ГАРДЗЕЙ

Тытунь даўно лічу атрутай,
Паверце мне, не без прычын,
Таму, памкненнямі прыкуты,
«Куру» малодзенькіх дзяўчын.
Ды хай гарэць мае санеты!
Я б ганарар увесь аддаў,
За тое, каб мой верш пра ГЭТА
На вочы жонцы не трапляў.

*г. Гродна.*



## Віктар КУНЦЭВІЧ

### Чубатая высакароднасць

*Чуб парадзеў, і памудрэў пагляд.*
*Хай выгляд мой камусьці*
*здасца сумным,*
*Я не хачу, як трыццаць год назад,*
*Бы певень той, за кожнай бегчы*
*сукняй.*
Міхась КУЛЕШ

Трыццаць гадоў назад
Не думаў пра сумленне.
Такі меў чуб, азарт –
Зайздросціў нават певень!

Цяпер я памудрэў:
Дух, сілы зберагаю
І у сваім двары
Кабетак не чапаю.
Дык самі да мяне:
– Чаму, Міхась, самотны?
– Не спакушайце, не!
Я стаў высакародным.

*г. Магілёў.*



## Дзмітрый ПЯТРОВІЧ

### Крамольныя думкі

*Хоць зусім не ліхадзей*
*Ці які свавольнік, –*
*Дакрануся да грудзей*
*Да тваіх крамольных...*
Аляксандр БЫКАЎ

Як ад думак мне адбіцца,
Смелых і свавольных?
Так хачу я прытуліцца
Да грудзей крамольных,

Да тваіх плячэй, і ножак,
І да шыі тонкай...
Не скрыпеў бы толькі ложак,
Бо прачнецца жонка!



## Аляксандр БЫКАЎ

### Перастараўся

*Ранкам стылым адчыню я фортку,*
*Пакланюся маладому дню...*
Дзмітрый ПЯТРОВІЧ

На маю вы паглядзіце фотку:
І ў жыцці такі ж я, не маню.
Ранкам стылым адчыніў я фортку –
Пакланіцца маладому дню.

І чаго туды мяне панесла?
Вунь рагочуць Зэкаў і Бадак.
Рады дню. Ды галава замерзла,
А назад не лезе аніяк!

*г. Мядзел.*



# Малюе Алег ГУЦОЛ

*Алег ГУЦОЛ – вядомы мастак-карыкатурыст, які таленавіта (і прафесійна) разбіраецца яшчэ і ў механіцы, і ў журналістыцы. Яго малюнкі адрозніваюцца «смачнымі» дэталямі і любоўю да персанажаў. Больш за дваццаць гадоў Алег Уладзіміравіч сябруе з часопісам «Вожык» і радуе чытачоў вясёлай і яркай творчасцю. Актыўны ўдзел у міжнародных выставах і безліч узнагарод дазваляюць назваць яго майстрам міжнароднага класа. Жадаем новых перамог і ўсмешак, моцнага здароўя і сямейнага шчасця! Няхай з 55 усё ў жыцці будзе на 5!*


















## Ну, пачакай, самадзейнасць!

У межах лесапаласы
Злавіў Воўк Зайца ля крыніцы.
Перапалоханы Касы
Пачаў у Шэрага прасіцца:

— Дай у жыцці апошні раз
Я на пяньку станцую польку.
Ты ж апетыт у гэты час
Сабе нагоніш думкай толькі!

Згадзіўся Воўк. Насупраць сеў,
Глядзіць, як Заяц скача лоўка.
А Паляўнічы паміж дрэў
Прыгатаваўся з дубальтоўкай.

Ён цэліўся не ў Зайчаня,
Быў Воўк здабычай
больш цікавай.
Адкінуў стрэл Ваўка ад пня
За прыдарожную канаву.

Адбегся Воўк і ў гушчары
Лёг пад ялінкай маладою.
Задраўшы морду дагары,
Паскардзіўся Саве на хвоі:

— Уцёк сняданак у кусты,
І хвост адстрэлілі дуплетам!..
Навошта, адкажы мне ты,
Была мне самадзейнасць гэта?

**Уладзімір ЦАНУНІН,**
*г. Вілейка.*

## Круты абутак

З юнацтва я люблю красоўкі
За іх практычнасць і камфорт.
Абуўся — і на трэніроўку:
Хоць у спартзалу, хоць на корт,

Хоць на футбольную пляцоўку,
На стадыён або манеж...
Калі ўжо маеш падрыхтоўку —
Яе, як талент, не прап'еш!

Зайздросны якасны абутак,
Прыдатны мне на цэлы год.
Я мог бы запар трое сутак
Хадзіць у ім без перашкод.

Але ў красоўках маладзёнам
Хачу між іншым нагадаць:
Каб іх насіць вось так штодзённа,
Часцей... шкарпэткі трэ мяняць.

**Генрых ТАРАСЕВІЧ,**
*г. Мінск.*

## «Паляўнічы»

Кот Маркіз — інтэлігент.
Клопату не мае:
На сняданак, на абед
«Віскас» спажывае.

Пах каўбас казыча нос,
На вячэру кліча.
Карпаў гаспадар прынёс —
Клёвая здабыча.

Важна ў крэсле кот ляжыць,
Жмурыцца, вуркоча.
Сыты, гладкі, аж блішчыць,
Паляваць не хоча.

У хляве кішаць-пішчаць
Мышы з пацукамі:
«Гэй, Маркіз, бяжы гуляць
У хованкі з намі!»

**Галіна НУПРЭЙЧЫК,**
*г. Клецк.*



Анастасія СКАРКО і Міхась СТЭФАНЕНКА.

## Не ўдакладніў

*Маладзечанскі раён.* Калі ўчастковыя інспектары завіталі на панадворак да аднаго з жыхароў вёскі Вязавец, то заспелі яго за працай. Той якраз вырабляў самагон.

– Стаміліся? Даўно працуеце?

– Стаміўся, – не стаў хлусіць мужчына. – Але я тыдзень таму толькі гнаць навучыўся! І не прадаю нічога, гэта так, для ўласных патрэб, – і ўздыхнуў.

Аднак міліцыянеры чамусьці не паверылі вяскоўцу і неўзабаве знайшлі ў яго гаспадарцы 200 літраў гатовага прадукту і 3700 літраў брагі. Апошнюю, вядома, знішчылі, а алкаголь і самагонны апарат – канфіскавалі...

Добра падумаўшы, беспрацоўны вясковец не зусім і хлусіў, калі казаў пра ўласныя патрэбы. Толькі не ўдакладніў, пра якія надобы ідзе размова, – уласныя патрэбы ў лёгкіх грошах.



## Няшчасце ад кавы

*Докшыцкі раён.* Два жыхары гарадскога пасёлка Бягомль забыліся, што на чужым няшчасці шчасця не пабудуеш. І калі пабачылі на дарозе расійскую фуру з прычэпам, якая ляжала на баку, вырашылі пажывіцца. Хуценька з’ездзілі дахаты, дамовіліся, што і як рабіць, і вярнуліся да месца аварыі. Потым пакінулі свой аўтамабіль у зацішным месцы, незаўважна падкраліся да фуры і ўкралі са скрынак, што выпалі з прычэпа, 360 бляшанак з кавай.

Супрацоўнікі міліцыі знайшлі злачынцаў раней, чым яны паспелі




выпіць крадзены напой. На іх няшчасце, у адносінах абодвух узбуджана крымінальная справа.




## Загадкі чорнай скрыні

*Магілёў.* Гэта прадпрымальная дзяўчына магла б зарабляць немалыя грошы, калі б пачала дасылаць пытанні ўдзельнікам гульні «Што? Дзе? Калі?». Знаўцы абавязкова прайгралі, спрабуючы знайсці адказ на такое запытанне: «Пакупнік заказаў праз інтэрнэт-сайт мабільны тэлэфон. Прыйшоў на пошту па пасылку. Што схавана ў чорнай скрыні?» Яны ніколі не здагадаліся б, што ў ёй ляжыць... пляшка.

Менавіта яе і знайшоў у пасылцы замест доўгачаканага тэлефона мясцовы жыхар. А перад гэтым – выслаў дзяўчыне перадаплатай 250 рублёў. Гэты хлопец, дарэчы, не першы падмануты пакупнік. Летась ахвярай ашуканкі ўжо стала мінчанка, якая такім жа спосабам «купіла» туалетную ваду за 100 рублёў.

Цяпер махлярка шукае адказ на пытанне, якое пакаранне яе чакае: штраф, папраўчыя работы, арышт ці пазбаўленне волі?..

## Крымінальныя супадзенні

*Гомельская вобласць.* Прыхільнікі містычных супадзенняў, магчыма, зацікавіліся б гісторыяй затрыманай банды «чорных рыэлтараў». Хеўра складалася з пяцярых чалавек: чатырох мужчын і адной жанчыны. Між іншым, у апошняй было пяцёра дзяцей. «Чорныя рыэлтары» ашуквалі і незаконна ўтрымлівалі людзей, падраблялі дакументы, каб завалодаць іх маёмасцю. Ахвярамі банды станавіліся адзінокія аматары выпіць.

Увогуле, мясцовых злачынцаў чамусьці прываблівае лічба «пяць»: у мінулым годзе была асуджана злачынная група з пяці чалавек за буйное ашуканства.

Супадзенні дзвюх гісторый на лічбе «пяць» не скончацца. Хаўруснікі затрыманы, імі займаюцца следчыя.

## Урокі французскай

*Орша.* Французская прымаўка сцвярджае, што падмануць падманшчыка – двайное задавальненне. Так і атрымалася ў гэтай гісторыі. Спачатку адна жанчына ўкрала ў свайго знаёмага падчас застолля 25 тысяч расійскіх рублёў. А потым, калі пайшла на вакзал памяняць частку валюты, яе ашукаў спекулянт. Варта было грашам апынуцца ў руках мянялы, як ён адпіхнуў кліентку і знік.

Зараз прыхільнікам французскага фальклору і яго ахвярай займаюцца супрацоўнікі міліцыі. Узбуджаны крымінальныя справы.



*Па інфармацыі прэс-цэнтра Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь.*




# Паехалі і паплылі

Гэта толькі на першы погляд здаецца, што няма ў свеце прасцейшага вынаходніцтва, чым веласіпед. Не дарма ж існуе выраз «Не трэба вынаходзіць веласіпед», г. зн. прыдумляць нешта ўсім вядомае. Ажно не верыцца, але доўгі час людзі абыходзіліся без гэтага віду транспарту!

Між тым, папярэднікі веласіпеда – чатырохколавыя павозкі-самакаты, вядомыя з XVI стагоддзя. Першы двухколавы веласіпед з педалямі і рулём быў зроблены ў Расіі ўральскім кавалём Яфімам Артамонавым у 1801 годзе. Неўзабаве нямецкі барон Карл фон Дрэз прыдумаў канструкцыю, якую назваў «машына для бегу». Але гэтая назва не прыжылася і яе пачалі называць дрызінай, у гонар барона. Выглядала дрызіна як двухколавы самакат з рулём і без педаляў, з драўлянай рамай. Уявіце: у той час, калі галоўным транспартам была павозка, запрэжаная коньмі, раптам з'яўляецца магчымасць хутка перамяшчацца самому! Праўда, рухацца гэтай штуковіне дапамагалі ногі «вадзіцеля», таму ў ездакоў вельмі хутка зношваліся чаравікі.

Але аматары пракаціцца з ветрыкам не здаваліся і ўсё ўдасканальвалі веласіпед: з часам да пярэдняга кола прыкруцілі педалі, замянілі драўляную раму на металічную...

Затым канструктары вырашылі павялічыць пярэдняе сядло да двух метраў. Задняе ж было каля трыццаці сантыметраў. Такія веласіпеды называлі «павукамі». Ездзіць на іх было небяспечна, а падаць – высока. Таму, каб траўм было менш, стваральнікі гэтага цуда дабавілі трэцяе задняе кола. А каб прывабіць экстрэмалаў, пачалі праводзіць на «павуках» спаборніцтвы. Газеты таго часу пісалі: *«Каб кіраваць гэтымі веласіпедамі, патрабуецца сіла слана і спрыт малпы».*

Ну, а калі ўжо прыдумалі шыны, веласіпеды сталі вельмі папулярнымі! Пазней, у канцы XIX стагоддзя, вынайшлі і тармазы. (Як некаторыя сцвярджаюць, карысныя толькі для баязліўцаў. Ну, ці тых, хто не гуляе ў хакей.) І яшчэ шмат чаго іншага, карыснага і часам не вельмі. Цяпер веласіпеды бываюць дарожныя, юнацкія, спартыўныя, дзіцячыя, спецыяльныя (грузавыя, цыркавыя, велакаляскі і інш.)...

А яшчэ пра веласіпеды ёсць шмат анекдотаў.

*– Вам піва? – пытае афіцыянт у пастаяннага наведвальніка.*

*– Не, сёння я на веласіпедзе. Прынясіце, калі ласка, мінеральную ваду.*

*Праз некалькі хвілін афіцыянт прыносіць піва і кажа:*

*– Вы можаце ўжо піць алкагольныя напоі, ваш веласіпед нехта ўкраў.*

***

*Адзін сябар кажа другому:*

*– Табе сорак гадоў, а ездзіш на маршрутцы! Сорам які!*

*– А ты як на працу дабіраешся?*

*– На веласіпедзе!*

***

*Веласіпедыст – бяда для эканомікі. Ён не купляе машыну, бензін, страхоўку. Не бярэ крэдыт. Не плаціць за стаянку, рамонт і мыццё. А яшчэ – за лякарствы, бо ён здаровы!..*

***

*Экзамен па правілах дарожнага руху. Экзаменатар кажа курсанту:*

*– Уявіце сітуацыю. Перакрыжаванне. Ваша машына, грузавік, трамвай. Хто праедзе першым?*

*– Веласіпедыст! – упэўнена адказвае той.*

*– Ды няма тут ніякага веласіпедыста! Ваша машына, грузавік, трамвай. Хто праедзе першым?*

*Курсант (крыху падумаўшы):*

*– Веласіпедыст!*

*– Ды адкуль ён узяўся, гэты твой веласіпедыст?! – злуецца экзаменатар.*

*– А чорт яго ведае, адкуль гэтыя веласіпедысты бяруцца?! – паціскае плячыма той.*

***

*Людзі плачуць у маршрутках, аўтобусах, дарагіх машынах... Але я ніколі не бачыў, каб нехта плакаў, едучы на веласіпедзе...*



Анастасія СКАРКО і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

Калі крыху сур'ёзна, веласіпедны спорт уключае гонкі на шашы, трэку, па перасечанай мясцовасці (велакрос), велабол і фігурную язду на веласіпедах. Гонкі ж бываюць індывідуальныя, камандныя, парныя, групавыя, адна- і шматдзённыя, за лідарам і на тандэмах, а яшчэ — праследавання, з ходу і з месца, з выбываннем, з прамежкавымі фінішамі і інш. Ух, праехалі!..

Першыя афіцыйныя спаборніцтвы па веласіпедным спорце адбыліся ў 1869 годзе (гонка Руан—Парыж, 120 км) на драўляных веласіпедах. Найбольш вядомая і прэстыжная гонка ў прафесіяналаў — «Тур дэ Франс» (з 1903 года).

На II Еўрагульнях удзельнікі групавой гонкі будуць рухацца па крузе даўжынёй 15 кіламетраў па праспекце Незалежнасці і цэнтральных вуліцах сталіцы. Ну, а месца старту і фінішу будзе размешчана ў самым цэнтры — на Кастрычніцкай плошчы. У індывідуальных гонках (шлях складае 21,9 км) спартсмены будуць стартаваць і фінішаваць на вуліцы Інтэрнацыянальнай, дагэтуль паездзіўшы зноў жа па цэнтральных вуліцах Мінска.

Навошта такія падрабязнасці? Ну, дык каб балельшчыкі ведалі, дзе ім загадзя заслупаваць свой асабісты метр на метр! Марафон — гэта ж, першым чынам, найсур'ёзнае выпрабаванне... для гледачоў: паспрабуйце мінімум дзве гадзіны прачакаць з'яўлення на гарызонце мужных веласіпедыстаў і потым паспець толькі... зрабіць ім ручкай (бейсболкай ці хустачкай) — і ўсё. Фініш убачаць іншыя. Па тэлевізары...

Зрэшты, той, хто сам ніколі не круціў педалі, не знемагаў ад спякоты на бясконцых віражах, не валіўся ад стомленасці, учапіўшыся вялікім пальцам за веласіпедны ланцуг, — наўрад ці ўсё гэта зразумее. Але сапраўдныя фанаты веласпорту будуць, як кажуць, стаяць да пераможнага. Бо яны дакладна ведаюць: «Усё жыццё — у палоску: то паласа няўдач, то перашкод». А пераможцаў, бывае, таксама судзяць. Не абавязкова на агульнай шашы, але і ў адзіночных спрынтах, і на трэках.

Калі любімы занятак англічан — стаяць у чарзе па білеты на іх




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

славуты Уімбалдон, то, напрыклад, жыхарам і гасцям Заслаўя заўсёды прыемна ў пагодлівыя дні прыйсці на Вяслярны канал. Там, дзе знаходзіцца «Рэспубліканскі цэнтр алімпійскай падрыхтоўкі па вяслярных відах спорту». Вада, вада, вакол вада!.. А на той вадзе байдарачнікі вёсламі заўзята грабуць, дзелавіта мітусяцца «каноэйцы» ў сваіх доўгіх «гагарах».

Бо калі сеў у лодку, не кажы, што «я проста пакатацца». Тут трэба мець не толькі моц у біцэпсах, але і стратэгію ў галаве: сапернікі ж таксама не дурныя, добра сядзяць, далёка бачаць!..

Па праўдзе кажучы, канал шыкоўны — даўжыня 2150, шырыня — 130 і глыбіня — 3-3,5 метра! А хочаш, назірай за воднымі спаборніцтвамі на самым вялікім святлодыёдным табло ў Беларусі: 66 м$^2$! Ды яшчэ — гатовая турысцкая зона. Пашанцавала калісьці Заслаўю...

Адным словам, спадарожнага ветру табе, чалавек з вяслом!

А што там кажуць пра лодкі народныя мудрацы?

*І вялікаму караблю патрэбны маленькія лодкі.*

*Хто купіў лодку, той купіць і вёслы.*

*Калі ў лодкі два гаспадары, яна патоне.*

*Лодцы, якой няма куды плысці, вёслы непатрэбныя.*

*Лодка праплывае, бераг застаецца.*

*Лішняе весла ў лодцы ніколі не лішняе.*

Калі ж зноў крыху сур'ёзна, то, як вы ведаеце, веславанне на байдарках і каноэ — гэта від вяслярнага спорту, гонкі і вяслярны слалам на байдарках і каноэ. Удзельнічаюць мужчыны і жанчыны. Дыстанцыі гонак у мужчын (выступаюць на байдарках — адзіночках, двойках, чацвёрках, каноэ — адзіночках і двойках) 500, 1000 і 10000 метраў, у жанчын — выступаюць толькі на байдарках — 500 метраў.

Чым жа адрозніваюцца гэтыя лодкі? Тут усё проста. Байдарка (каяк) — вузкая лёгкая лодка без уключын, закрытая зверху палубай з люкамі для весляроў. Веслуюць двухлопасцевым вяслом, кіруюць рулём, які паварочваецца нагамі. А каноэ — гэта вёславая лодка без уключын, у якой вясляр дзейнічае аднапалопасцевым вяслом. Вясляр стаіць на адным калене ці сядзіць тварам да напрамку руху. Разабраліся!

Сёння веславанне на байдарках і каноэ пастаянна прыносіць нашай краіне медалі на Алімпійскіх гульнях, чэмпіянатах свету і Еўропы.

**Вядучы рубрыкі**
**аматар спорту Аляксандр ЗОТАЎ.**

*Працяг — у наступным нумары.*




Сяброўскі шарж
Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

## З гумарам жыццё звязаў непарыўна Расціслаў

*Пісьменнік, журналіст, педагог Расціслаў Мацвеевіч БЕНЗЯРУК – наш старэйшы аўтар і аддданы сябар. На старонках «Вожыка» як гумарыст ён дэбютаваў у далёкім 1971 годзе. З таго часу і да сённяшняга дня па-майстэрску адточанае вясёлае слова творцы працягвае радаваць чытачоў. Байкі, вершы, пародыі, эпіграмы ў 2008 годзе былі сабраны ў кнізе «Азбука наадварот». А колькі іх рассыпана па перыядычных выданнях і калектыўных зборніках!*

*Плённыя набыткі ў пісьменніка і на ніве дзіцячай літаратуры. Для маленькіх чытачоў у розныя гады аўтар выдаў зборнікі «Чаму сонца ўстала» (1997), «Зайцаў кажушок» (2004), «Патапка і яго сябры» (2013) і інш. Лепшыя казкі ўвайшлі ў падручнікі і на працягу многіх гадоў вывучаюцца ў школах.*

*Ад усёй душы віншуем Расціслава Мацвеевіча з 75-годдзем, якое ён адзначыў напрыканцы лютага ў выдатнай гумарыстычнай форме. Няхай жыццё Вам усміхаецца выключна добразычліва і лагодна!*

**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

БАЙКІ Ў ПРОЗЕ

### Плуг і Меч

Яны сустрэліся ў музеі. Сустрэліся і разгаварыліся. Дакладней – паспрачаліся.

– Меч, якая з цябе карысць? – папракнуў Плуг. – Цябе і выраблялі толькі для рыцарскіх турніраў, а калі трапляў на вайну, дык зносіў галовы ці калоў цела. Вось я – іншая справа: адвеку араў зямлю, каб чалавек засяваў палеткі зернем. Словам, карміў людзей.

– Але ці было б што араць, калі б я не абараняў гэтую зямлю? – не пагадзіўся Меч.

Іх спрэчку пачуў Дырэктар музея і спытаў:

– Скажыце, а чаму вас змясцілі побач?

Ні Плуг, ні Меч не ведалі, што адказаць, а Дырэктар патлумачыў:

– Сёння рэдка ўбачыш каня з плугам. Сучасныя трактары аруць пяццю-дзесяццю плугамі. Амаль не карыстаюцца і мячом, бо прыдумаў чалавек іншую зброю – агнястрэльную, хімічную... Вас жа памясцілі поруч, каб паказаць сучаснікам, што нашы продкі, калі трэба было, маглі і працаваць, і ваяваць. Памятайце пра сваю гістарычную ролю, ганарыцеся і болей не сварыцеся!

### Прас

Прас любіў працаваць і сумленна служыў Гаспадыні. Тая не магла нарадавацца, гледзячы на роўныя стосы гладкай бялізны ў шафе.

Так было да той пары, пакуль Гаспадар не налаўчыўся забіваць Прасам цвікі. Малаток з яго аказаўся не надта добры... Прасаваў ён цяпер усё горш і горш, таму Гаспадыня аднойчы заявіла:

– Наш Прас нікуды не варты! Трэба купіць новы!

Гаспадар узяў яго і выкінуў на сметнік. Лежачы сярод рознай непатрэбшчыны, гаротнік зразумеў: «Дрэнна, калі прымушаюць займацца не тым, для чаго ты прызначаны, што ўмееш і любіш рабіць. Такія гісторыі маюць незайздросны фінал...»

### Дарагое шчасце

Казала Настачка Калюжа:
– Якое шчасце я для мужа!
На вагі стаўшы, дадавала:
– І шчасця, бачыце, нямала!..

Муж згодзен: «Безумоўна, Насця –
Занадта дарагое шчасце!
Каб пракарміць, шыкоўна апранаць,
На трох работах мушу працаваць...»

### Урок дзядам

Да дзяўчат хадзі тады,
Як ты хлопец малады.
А калі «смарчок» стары –
Маладзіцы не бяры.
Не паглядвай на Мальвін,
Бо канец заўжды адзін:
Альбо ўлетку, альбо ўвосень
Застанешся, братка, з носам!..
Гэта нават не папрок,
А старым дзядам урок.

ГІСТОРЫЙКІ

## Гарбачоў

Вясковы каваль Андрусь меў мянушку Гарбачоў. Не таму, што мужчына быў невысокі ды каржакаваты, і не ад прозвішча Гарбаценка. Андрусь яшчэ ў маладыя гады выпадкова паставіў сабе на лбе жалезам амаль такі знак, як у Міхаіла Сяргеевіча.

Андрусь на пенсіі, але з кузні па-ранейшаму даносіцца стук-грук: каваль і плуг падладзіць, і сярпок назубрыць, і матыку зробіць. Рухавы дзядок! Нядаўна яго ледзь вясковым старастам не выбралі, ды языкастая Арына ўсё сапсавала.

– Не дапушчу, каб Гарбачоў намі кіраваў! – заявіла яна.

– Гэта чаму? – пацікавіліся вяскоўцы.

– Бо Гарбачовы – ненадзейныя людзі! Той увесь Савецкі Саюз прапіў...

– Ён жа і сам не піў, і нам не даваў, – запярэчылі ёй.

– Не прапіў, дык прасвісцеў, – папраўіла сябе Арына. – А гэты нашу вёску прасвішча!..

Пасля яе слоў Андрусь не вытрымаў:

– Не завіце мяне больш Гарбачовым. Не хачу! А то так і будуць усё жыццё папікаць тым Савецкім Саюзам, якога даўно ўжо няма...

## Перапёлачка

На вяселлі падчас танцаў дзядзька Хвядос шукае вачыма сваю жонку і не знаходзіць. Пытае суседа:

– Клім, ты маёй перапёлкі не бачыў?

– Ганулі? Не, не бачыў. Відаць, яшчэ за сталом. Хвядос, а чаму ты сваю жонку перапёлкай завеш?

– Сам хутка зразумееш! – загадкава ўсміхнуўся той.

Ганулля быццам адчула, што яе шукаюць: падышла, смачна пацягнулася, ажно косці, здавалася, хруснулі, і весела сказала-праспявала:

– Ой, перапіла-пераела!

– Перапіла – таму і перапёлачка, – задаволена заўважыў Хвядос.

– Нічога сабе перапёлачка! – ціха засмяяўся, прыкрываючы рукой шчарбаты рот, Клім. – Сем пудоў важыць, не меней...





Віктар КОХАН.



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Міхась СТЭФАНЕНКА.

Кнігарня «Вожыка»

# *Не адну вясёлую хвіліну правядзеш ты з «Жонкай на гадзіну»*




*З творчасцю Андрэя СІДАРЭЙКІ знаёмы кожны, хто хоць час ад часу гартае нумары «Вожыка». Гумарыстычныя гісторыі аўтара з зайздроснай рэгулярнасцю з'яўляюцца на старонках і нашага часопіса, і іншых выданняў: газет «Літаратура і мастацтва», «Звязда», «Настаўніцкая газета». Андрэй — не з кагорты лянівых: першую сваю гумарэску напісаў падчас вучобы на факультэце журналістыкі БДУ, дэбютаваў з ёй у «Вожыку» ў 2009 годзе, і з таго часу займеў важкі багаж вясёлых твораў. Іранескі, фельетоны, гісторыйкі так і прасіліся ўкласці іх у асобнае выданне. Што і здзейснілася ў мінулым годзе: выдавецтва «Чатыры чвэрці» выпусціла ў серыі «Несур'ёзна пра сур'ёзнае» дэбютны зборнік Андрэя Сідарэйкі «Жонка на гадзіну». Чытаюцца гісторыйкі на адным дыханні, ды і пасмяяцца тут ёсць з чаго... Зрэшты, паважаныя, вы і самі ўсё ведаеце.*

**Андрэй СІДАРЭЙКА**

## Тайна

Аднойчы я зайшоў да знаёмага — Івана Іванавіча. Яны з жонкай акурат вячэралі. Запрасілі за стол і мяне.

— Мы аддаём перавагу веганскай ежы, — сказаў гаспадар. — Так што прабач, катлет няма.

— Веганства вельмі карыснае, — падтрымала мужа яго палавінка. — Мы выключылі з рацыёну ўсе прадукты жывёльнага паходжання. У выніку Іван скінуў вагу, а як здароўе паправіў!

— Так-так, — кіўнуў знаёмы. — А ўжо як папрыгажэла мая ластаўка! Як яе шчочкі заружавелі!

Я скептычна паглядзеў на абвіслы жывот аднаго і на распаўнелыя бакі другой. Але змаўчаў.

На наступны дзень сустрэў Івана Іванавіча ў горадзе. Ён кудысьці спяшаўся. Па дарозе, праўда, прапанаваў зайсці ў сталовую. Да майго здзіўлення, знаёмы ўзяў зусім не гародніну, а суп з фрыкадэлькамі і макароны з адбіўной.

— А як жа дыета?! — здзівіўся я.

— Ды ну яе! — махнуў рукой Іван Іванавіч. — Гэта ўсё жонка. Маўляў, хто клапоціцца пра сваё здароўе, павінен ужываць толькі раслінную ежу. Давялося пагадзіцца. Паўгода так пакутаваў. Але потым прыдумаў спосаб. Пачаў удзень ездзіць у сталовую на іншы канец горада. Тут і свініна, і адбіўныя... Ты толькі ёй нічога не кажы. А то будзе мне!

Я даў слова гонару: ні-ні. Перакусіўшы, выйшлі са сталовай у добрым настроі і накіраваліся па сваіх справах.

Праз некалькі дзён давялося ўбачыць жонку Івана Іванавіча ў кавярні. На яе сподачку ляжалі пірожныя з крэмам са сметанковага масла ды іншыя прысмакі. Не змог прайсці міма. Слова за слова, разгаварыліся.

— А як жа дыета, Святлана Уладзіміраўна? У гэтых ласунках столькі жывёльных прадуктаў, зусім не карысных для здароўя...

Жанчына ўздыхнула.

— Усё ішло добра, — пачала яна здалёк. — Я цалкам прытрымлівалася веганскага спосабу харчавання. Але пасля... Ведаеце, салодкае — мая слабасць! Вы толькі мужу нічога не кажыце! — паглядзела на мяне жаласлівымі вачамі Святлана Уладзіміраўна.

— Ну што вы! — паабяцаў я.

У нядзелю трапіў да Івана Іванавіча на абед. Як і ў першы раз, муж і жонка з захапленнем расказвалі пра перавагі веганства. І па чарзе крадком мне падміргвалі. Іх намёкі я разумеў. Таму трымаў язык за зубамі.



Алег КАРПОВІЧ.




З-за няшчаснага кахання
Не магу начамі спаць.
Была сорак кілаграмаў,
Стала — восемдзесят пяць.

* * *

На дварэ мароз стаіць,
Ажаніцца мне карціць.
Трэба парачку шукаць —
Аднаму халодна спаць.

* * *

Як мяне цалуе мілы,
Я гару агнём, як печ.
Прыбываюць тады сілы,
Адыходзяць беды прэч.

* * *

Наша баба Валечка —
Нібы тая лялечка.
Хоць не мае ўжо зубоў,
Але марыць пра любоў.

* * *

Засмучацца з-за кахання
Доўга не даводзіцца:
Калі круціць носам Ваня,
То Лявон знаходзіцца.

* * *

Што ты топчашся пад слівай,
Са сватамі не ідзеш?
Калі будзеш баязлівы —
Нецалованым памрэш!

* * *

Не глядзі, што наша Стася
Незамужняй засталася.
Хоць не ўзяў яе Антось —
На Кузьму надзея ёсць.

* * *

Ты не кліч мяне, Фядот,
Надвячоркам у чарот.
Не дурніца маладая —
Кліч туды, дзе не была я.

* * *

А я мілую сваю
Называю цацаю.
Серэнады ёй пяю
І другіх не мацаю.

* * *

У каго няма прыпевак,
А ў нас — поўныя мяхі.
Любяць галасістых дзевак
Гарманісты-жаніхі.

* * *

Весялей таму жывецца,
Хто на лёс не скардзіцца.
Хто жартуе ды смяецца —
Ў таго мары спраўдзяцца!

* * *

Як з гасцей мы ад'язджалі,
Нас ажно паўдня шукалі.
Любы ў сена запрасіў:
Я — зграбала, ён — насіў.

**Праспявала**
**Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ
і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.




Пётр КОЗІЧ.




**Уладзімір МАЗГО**

## Загадкі для зарадкі

**Для розуму зарадка —**
**У вершах і загадках.**
**Мазгуйце ўсе да аднаго:**
**Стварыў яе для вас Мазго.**

Над зямлёю ад вясны
Ён — нябёсаў сувязны.
Дорыць песню, як сябрук,
Заліваецца ...

(Жаўрук.)

* * *

Спрытны вогненны звярок
Напалохаў зноў сарок.
Прамільгнула яркай зоркай
Над галінамі ...

(Вавёрка.)

* * *

Джэма джэм салодкі ела,
А на джэмпер — пчолка села.
Пчолка Джэму напужала:
Паказала Джэме ...

(Джала.)

* * *

Ён уцёк ад рыбака,
Ён уцёк ад шчупака
І жыве за іх не горш
У рацэ калючы ...

(Ёрш.)

* * *

Па лясах блукае статак
Волатаў і немаўлятак.
Гэта пушчы спадары —
Белавежскія ...

(Зубры.)

* * *

Кветка ранняю вясной
Дорыць радасць нам з табой.
Мы спаткалі ў пералеску
Сінявокую ...

(Пралеску.)

* * *

Сіняй стужкаю ў прасторах
Разгарнулася да мора.
І мяне, як сябрука,
Лашчыць хваляю ...

(Рака.)

* * *

Дом-палац стаіць высокі,
Нашых ведаў там вытокі.
Шум і гамана наўкола...
Ну, вядома, гэта — ...

(Школа.)

* * *

Я іду, а ён — за мной
Па сцяжыне лугавой.
Я іду. Спякотны дзень.
А за мною следам — ...

(Цень.)

* * *

Вецер ветразь развявае,
Судна якар падымае.
Сёння ў юнгі будзе вахта:
Адплывае ў мора ...

(Яхта.)

* * *

Невідзімка крылы мае
І па вуліцах лятае.
Падмяце чысцюля смецце —
І засне ў кювеце ...

(Вецер.)

* * *

Светлым ранкам з неба будзіць:
«Прачынацца трэба, людзі!»
Свеціць у аконца
Залатое ...

(Сонца.)






Алег ПАПОЎ х 2.




## А язык мокры...

Расказваю сыну казкі. Адну, другую, трэцюю... Стаміўся. Малы ж просіць:

– Раскажы яшчэ.

– Не магу, у горле ўсё перасохла, – тлумачу я.

– Адкрый рот, пакажы язык. Так-так, мокры, нічога не перасохла. Расказвай яшчэ! – вывеў ён мяне на чыстую ваду.

## Ажно страх

Унук не хоча есці кашу і просіць бабулю:

– Лепш дай мне булачку з цукеркамі, а то я такі худы, ажно страх!



## Памяты сабака



Бацька з сынам ідуць з дзіцячага садка. Раптам бачаць мопса, якога выгульвае гаспадыня. Сын заўважае:

– Тата, паглядзі, які сабака памяты...

**Запісаў**
**Канстанцін КАРНЯЛЮК,**
*г. Віцебск.*

## Трапны стралок

Комікс




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Глядзіць, хоць ты яму капейку дай.



Не баіцца ні хмары, ні грому.

Розуму — як у двух дурняў.

Без яго і мыш не здохне.

У цябе што, грошы ў кішэні пішчаць?

Няхай сабе мужык як шкарпэтка, абы я была як кветка.



З-за паляжання няма калі і пасядзець.

Мінуўшы лета ў маліну не ходзяць.

Стаіць, як на вітрыне.

Застаўся на моры без вясла.

Жадзён з'есці агурка.

Адзін чобат, другі бот.

Хоць хамут без лямца, затое дуга з кальцом.

Знiцiўся, як свiны татка.

Зімой старой бабе і на печы холадна.

На ёй скура брэша.

Які пашыўся, такі і падзярэцца.

Што я яму кажу, дык гэта паўз яго ветрыкам!

Углядаецца, як Агдаля ў капейку.

Куры родам хахлатыя.

Дзе п'ю, там і сплю.



Каб такія часта сеяліся, ды рэдка ўзыходзілі.

**Запісаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




На першым спатканні.

— Ой, мужчына, ну хопіць ужо пра мяне! Раскажыце лепш пра сябе і сваю зарплату!

☺ ☺ ☺

Калі жанчына задумала зрабіць вас шчаслівым, то вы наўрад ці выратуецеся.

☺ ☺ ☺

Мужчына ў графе «Сямейнае становішча» напісаў: «Безнадзейнае. Жонка, цешча і трое дзяцей».

Займальныя міфы

Генадзь АЎЛАСЕНКА

# Далікатная дапамога ад багоў

Дакладна невядома, якія адносіны існавалі паміж богам вясны Ярылам і багіняй вясны Лёляй. Магчыма, былі яны мужам і жонкай, магчыма, палюбоўнікамі і, гэтак жа магчыма, усяго толькі калегамі. Бо і Ярыла, і Лёля лічыліся апекунамі плоцкага кахання, вельмі спрыялі ў гэтай няпростай і далікатнай справе юнакам ды дзяўчатам.

Але і самі ў баку не стаялі! Не ведаю, як Лёля, але Ярыла, пэўна ж, быў яшчэ той лавелас! Бо чым ён горшы за Зеўса, які ні адной старажытнагрэчаскай прыгажуні не прапускаў?

Тым больш, што наш Ярыла, калі верыць міфам, быў такім зухаватым хлопцам, што не трэба было яму, як таму ж Зеўсу, то ў лебедзя ператварацца, то ў быка, а то нават у залаты дождж, каб чарговую наіўную дурнічку спакусіць!



Уяўляеце: едзе Ярыла па вясновых палетках, адзенне на ім белае, конь пад ім — таксама белы, на галаве — вянок, а ў руцэ — каласы жытнёвыя. Ды тут у любой дзяўчыны галава ад кахання закружыцца!

Лёля ў прыгажосці Ярылу не саступала. Маладзенькая, стройная і такая прыгожая, што вачэй не адарваць. І калі ў дзяўчат ад аднаго позірку Ярылы галовы кругам ішлі, то Лёля мясцовым юнакам сама галовы кружыла. Дый так, што яны, ачмурэлыя ад кахання, хапалі гэткіх жа ачмурэлых дзяўчат і...

Пра тое, што паміж імі далей адбывалася, я вам апавядаць не буду, самі здагадаецеся. Але такі старажытны звычай нашых продкаў, як выкраданне юнакамі сваіх будучых жонак («умыканне»), несумненна, быў асвечаны высокім аўтарытэтам бога кахання Ярылы.



Былі ў Ярылы і іншыя, больш сур'ёзныя абавязкі. Да прыкладу, вясной, у Ярылаў дзень, ён адмыкаў неба — і толькі пасля гэтага людзі пачыналі сеяць яравыя культуры і выганяць жывёлу на пашу. Бо калі яны спрабавалі гэта рабіць раней, то і ячмень з аўсом кепска ўзыходзілі, і ваўкі на коней нападалі, і каровы мала малака давалі...

А ўсё таму, што Ярыла лічыўся ваўчыным пастухом. Вельмі яго ваўкі слухаліся. Пасля Ярылавага дня ён усім драпежнікам пашчы замыкаў, таму летам ваўкі ўсялякай драбязой харчаваліся: зайцамі, птушкамі, мышамі, нават ягадамі ды зелянінай. А восенню Ярыла зноўку адмыкаў шэрым пашчы, дазваляў паляваць на буйную здабычу, каб з голаду не памерлі і дацягнулі да наступнага Ярылавага дня. Калі зноў вясна, зноў белы конь, зноў каханне...










Алег ПАПОЎ х 2.




Каб канкурэнтаў абысці, Панкрат
Удасканаліў самагонны апарат.
На пень ён трубку накруціў –
Не змеявік, а дзіва з дзіў!
Кацёл на большы замяніў,
Тры бочкі новыя здабыў.
Не капае – цурчыць пяршак.
«Вось бы раней зрабіць мне так!» –
Панкрат з усмешкай разважаў.
Эфект такі, што проста «ваў»!
Булькоча брага, закіпае,
Дзве бутлі поўныя да краю.
Падкінуў дроў ён – іскры ў неба.
«Яшчэ вады прынесці трэба».
Пайшоў да ручая Панкрат,
І... узарваўся агрэгат.
Ад страху дзядзька ў лесе знік...
Вісіць на дрэве змеявік.
Не на карысць пайшоў апгрэйд*:
У лесе – міліцэйскі рэйд.

** Апгрэйд – тое, што і мадэрнізацыя, абнаўленне, удасканаленне.*

**Уладзімір ФІЛАТАЎ,**
*г. Мінск.*




Юрый МІХАЙЛАЎ.




50 АДЦЕННЯЎ ЧЫРВОНАГА

Алег ГУЦОЛ.



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

Ганна АТРОШЧАНКА

# Сон

*Быль*



Петрусю Шпуліку прысніўся цікавы сон. Пра што, пытаецеся? Пачакайце, спачатку паслухайце, што ў ягоным жыцці было да гэтага...

Пятрусь — токар на заводзе. Старанны працаўнік. Заробак мае не благі, але ж усё ніяк не напрацуе на прэмію. Вунь ягоны сусед Іван, таксама токар, прэміі тыя нават перастаў лічыць. І ягоная жонка перад Петрусёвай Настуляй хваліцца: «Мой, што ні квартал — прэмію мне нясе. А твой?.. Я ж свайго моцна ў руках трымаю, калі што — прачуханца яму! А ты... Эх, Настуля, Настуля...»

Ну што тут скажаш? Адно: «Пятрусь, святы ідуць, не будзе прэміі — глядзі!»

Глядзі... Канешне, біцца Настуля не стане, усё ж жанчына, любімая жонка, адзіная на свеце, але ж управу на мужа знайшла: «Пакуль не прынясеш прэмію — будзеш спаць адзін!»

Слова жанчыны цвёрдае: сказана-зроблена... Тыдзень Пятрусь спаў адзін, і раптам гэты сон!

Дык вось, прыснілася Петрусю, што нібыта перад пачаткам змены майстар, Рыгор Хвядосавіч, пастроіў іх, быццам старшына ў войску, і называе передавікоў. Маўляў, усім будзе прэмія! Грашовая, вядома, ды не абы-якая. І Петрусю — таксама!

Так і ёкнула ў Петруся сэрца:

— Мне?..

— Табе, табе, Пятро Ігнатавіч Шпулік.

Гарачым потам ахапіла мужчыну: будуць на святы падарункі і жонцы, і маці, і цешчы, а найперш — дачушцы-першакласніцы, Настульцы, выдатніцы.

Пачуцці так распіралі Петрусёвы грудзі, што ён не вытрымаў і закрычаў на ўсю хату:

— Настулька, любая, прэмія! Ура!

Пачула гэты амаль баявы вокрык жонка, якая спала ў суседнім пакоі, і адразу кінулася да мужа, чэпка схапіла яго за вушы, затрэсла:

— Кажы, дзе прэмія, шалапут гэтакі?! Куды схаваў?.. Ану, прызнавайся!

Заенчыў Пятрусь, прачнуўся ад болю, здзіўлена лыпае вачамі.

— Ну?.. — усё трасе яго жонка, не можа спыніцца.

Нарэшце мужчына ачомаўся, прастагнаў:

— Няма яе... Пакуль няма. Я ж стараюся... Сон мне прысніўся, што прэмію выпісалі. Заслужыў! — на апошнім слове Пятрусь ажно заскуголіў. Крыху памаўчаў і дадаў: — Во, вушы распухлі, як аладкі. Як жа я на працу пайду?

Глянула на мужа Настуля, адпусціла нарэшце вушы: у самой рукі гарачь і ў яго вушы чырвоныя, нават у ранішнім паўзмроку бачна. Шкада Петруся стала. Уздыхнула жанчына, ледзь не загаласіла: «А родненькі мой, ты ж ніколі мяне не падманваў: што не заробіш, хай і без прэміі — мне! Маўляў, бяры гаспадынька, распараджайся...» Вядома, брала і бярэ: і ў сям'і дастатак і без той прэміі, і ў хаце заўсёды спакой і згода. А ў Івана і прэміі, і заробак, толькі часам ён жонку таўчэ, а жонка — яго: і ўсё ім мала... Цьфу!

— Петрусёк, любы, пасунься, — сказала Настуля, кладучыся побач з мужам на ложак. — Давай паспім, сёння субота, на працу не трэба... А вушы за два дні абвянуць, ніхто не заўважыць... Ты абдымі мяне, родненькі, можа, і мне твой сон пра прэмію прысніцца. А не — дык не, клопату... І без яе пражывём!..

*г. Гомель.*






Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




## Рыбы

Любяць адпачываць у цішыні, пажадана на прыродзе і ў адзіноце. Пазбягаюць шумных кампаній і вечарынак. Мараць пра мір і гармонію ў свеце.





16+

«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 3 (1566), 2019 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.

Рэдакцыйная калегія: Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Міхась КАВАЛЁЎ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ, Мікола ШАБОВІЧ.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел),* Алена КЕДА *(аддзел фельетонаў і пісьмаў),* Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры),* Анастасія СКАРКО *(мастацкі аддзел).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220034, г. Мінск, вул. Захарава, 19.
E-mail: a-vojik@yandex.by;
Тэлефон галоўнага рэдактара, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 244-92-37, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны,
748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 14.03.2019. Фармат 60x84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк. Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,19. Тыраж 628 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.

Матэрыялы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца, прымаюцца толькі ў электронным выглядзе.
Перадрукоўваючы матэрыял, трэба абавязкова спасылацца на «Вожык».
Аўтары публікацый нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пазіцыю і думку аўтараў.






Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.

# Малюе Пётр КОЗІЧ














# Вожыкаўскі плакат




Алег КАРПОВІЧ.

***Каб з нудой не сустракацца, Не забудзься падпісацца!***

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844,**
**індывідуальны льготны**
(для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380**;

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**
**ведамасны льготны**
(для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381**.

**«Вожык» прыйдзе кожнаму жыхару Беларусі!**



**ПАДПІСКА НА I ПАЎГОДДЗЕ 2019 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе**:
індэкс 74844, цана 5,00 рублёў,
індэкс 01380, цана 4,10 рублёў,
індэкс 748442, цана 14,30 рублёў,
індэкс 01381, цана 11,50 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разліковa-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**

9 770132 595002 19003